ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 30 (2380) 28 ліпеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 200 рублёў.



**Мінск, 20 ліпеня 1994 года. Першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка на спецыяльнай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь даў прысягу на вернасць свайму народу:**

**"Заступаючы на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся служыць народу Рэспублікі Беларусь, выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі".**

*МЕРКАВАННЕ ПРАФЕСІЯНАЛА*

## У БЕЛАРУСІ НЕ РАЗАРЫЎСЯ ЯШЧЭ НІВОДЗІН БАНК

На жаль, адна з характэрных рыс сённяшняга беларускага грамадства -- амаль татальная эканамічна-фінансавая непісьменнасць. У гэтым я пераканалася не толькі, гледзячы на сяброў і знаёмых, але і з уласнага вопыту. У тых сацыяльна-эканамічных умовах, у якіх мы жылі, усё складвалася так, што нам практычна не трэба было сутыкацца з падатковымі інспекцыямі або выбіраць банк, супастаўляючы, які з іх больш выгадны. Калі здараліся лішнія грошы, мы ішлі ў дзяржаўныя ашчадныя касы, паслугі якіх былі абсалютна аднолькавымі, строга рэгламентаванымі і наогул не вылучаліся разнастайнасцю.

Падобная сітуацыя складвалася і ў вытворчасці: прадпрыемствам, калгасам дзяржава выдзяляла шматлікія крэдыты, не асабліва клапоцячыся пра іх вяртанне, бо ўсе ведалі, што калі зноў спатрэбяцца грошы, іх забяруць у прыбытковых прадпрыемстваў, нярэдка не пытаючыся нават згоды.

І вось калі на нашы галовы пасыпаліся розныя, цяпер ужо шматлікія акцыянерныя таварыствы, інвестыцыйныя фонды, фінансавыя кампаніі, нават прыватныя банкі і г.д., мы не тое што разгубіліся, але ж не ведаем, як да іх ставіцца, тым больш, што часцяком наогул не разумеем, што гэта такое. Чытачу з далёкага замежжа такая сітуацыя можа паказацца ў нейкай ступені смешнай, але тым не менш ўсё складваецца менавіта так.

Апошнім часам па маскоўскіх каналах тэлебачання надзвычай шырока перадаецца рэклама аднаго буйнога акцыянернага таварыства, якая пераконвае, што, калі ўкласці грошы ў яго акцыі, на людзей, нават самых дробных акцыянераў, пасыплецца ці не манна нябесная. Але мы больш падобныя на адну з гераінь гэтай рэкламы, пра якую гавораць — "жанчына, якая нікому не верыць". Так і многія з нас, постсавецкіх людзей, у новых камерцыйных структурах, у тым ліку і ў банках, бачаць чарговы падман, ашуканства для простых людзей, на якіх чарговы раз хочуць "нажыцца" нованароджаныя "акулы капіталу". Каб нешта прасвятліць наконт "манны нябеснай", з аднаго боку, і "нажывы", з другога, мы і сустрэліся з **Яўгенам КУПЧЫНЫМ**, чалавекам не прост[illegible] сведчаным па частцы грошай [illegible] і "абцяжараным" адказнай банкаўскай пасадай. Ён -- прэзідэнт Асацыяцыі камерцыйных банкаў Рэспублікі Беларусь.

**-- Яўген Іванавіч, усё ж такі як наконт нажывы з боку банкаў на нас, прост[illegible] мяротных!**

-- Перш чым [illegible]абрацца з так хвалюючай вас праблемай "нажывы", я паспрабую растлумачыць, як стварылася сучасная сетка камерцыйных банкаў на Беларусі. Можа тады мы лягчэй зразумеем адзін аднаго.

Камерцыйны банк -- гэта не што іншае, як гаспадарча-разліковая ўстанова. Усе нашы банкі за выключэннем Нацыянальнага банка Беларусі -- камерцыйныя. Частка з іх — зусім новыя, частка — ужо вядомыя раней дзяржаўныя -- Аграбанк, Будбанк, Знешэканомбанк, Жылсацбанк і г.д., якім з-за інфляцыі для нармальнай работы проста неставала тых грошай, якімі яны валодалі. Каб атрымаць дадатковыя рэсурсы, гэтыя раней стопрацэнтна дзяржаўныя банкі сталі ператварацца ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы і абвяшчаць падпіску на свае акцыі. Падкрэсліваю: адкрытую падпіску. Любы жадаючы меў права купіць акцыі і стаць такім чынам саўладальнікам банка, трэба толькі было папярэдне задэклараваць свае даходы ў падатковай інспекцыі, якая павінна засведчыць, што грошы патэнцыяльнага акцыянера -- "чыстыя".

**-- Але ж так мы фактычна губляем дзяржаўныя банкі!**

-- Пры вялікім жаданні можна захаваць банкі, як і раней, цалкам дзяржаўнымі. Але ці ў назве сэнс? Можа ўжо трэба адмаўляцца ад палітычнай зашоранасці, хаця б у эканоміцы? Важна, каб банк справўна функцыяніраваў, быў у стане задаволіць патрабаванні кліента. Бо ў адваротным выпадку тое ж дзяржаўнае прадпрыемства звернецца ў іншы банк, туды, дзе галоўнае не шыльда, а колькасць грошай і ўмовы адпавядаюць патрабаванням і магчымасцям кліента.

Сёння банкаўская сістэма ў нашай краіне падзяляецца на два ўзроўні. На першым знаходзіцца Нацыянальны банк Беларусі, які не займаецца абслугоўваннем насельніцтва, асобных фірмаў і ўстаноў. Усе астатнія банкі -- на другім узроўні. Яны ў сваёй гаспадарчай дзейнасці цалкам самастойныя, не атрымліваюць ніякіх датацый, пазык, ільгот, залежаць толькі ад абароту грошай і, як і паўсюль у свеце, чым большы крэдыт могуць выдаць, тым большым аўтарытэтам карыстаюцца.

**-- Такім чынам, у сферы банкаўскага бізнесу мы нарэшце робімся падобнымі да іншых. Гэта задавальняе вас, як прафесіянала!**

(Заканчэнне на 3-й стар.).



## "ЕЎРОПА НОСТРА" МІРСКАМУ ЗАМКУ

**Фонд "Еўропа Ностра" аб'ядноўвае больш за 200 няўрадавых арганізацый у галіне рэстаўрацыі з 29-ці краін. Штогод "Еўропа Ностра" праводзіць конкурс на лепшую рэстаўрацыю. Летась ганаровым дыпломам было адназначна 16 аб'ектаў, і сярод іх -- перліна беларускага дойлідства: Мірскі замак.**

**Каб уручыць узнагароду, нашу краіну наведаў генеральны сакратар "Еўропа Ностра" спадар Лестэр Барлей. Цырымонія адбылася ў адрэстаўраванай частцы Мірскага замка.**

**Спадар Барлей гаварыў аб культурным адзінстве Еўропы, аб тым значэнні, якое надае "Еўропа Ностра" захаванню архітэктурнай і прыроднай спадчыны, паляпшэнню навакольнага асяроддзя.**



**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

### ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Міхаіл ЧЫГІР



На спецыяльнай сесіі Вярхоўны Савет ухваліў прапанаваны прэзідэнтам краіны склад урада Рэспублікі Беларусь. Прэм'ер-міністрам зацверджаны Міхаіл Чыгір.

Міхаіл Мікалаевіч Чыгір нарадзіўся ў 1948 годзе ў в. Усава Капыльскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Беларус. Эканаміст, скончыў у 1970 годзе Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя В.У. Куйбышава, у 1982 годзе -- спецфакультэт пры Маскоўскім фінансавым інстытуце

Працоўны шлях пачаў у якасці начальніка кр... нага аддзела Бярэзінскага аддзялення Дзяржбанка СССР Мінскай вобласці. Пасля службы ў радах Савецкай Арміі з 1973 па 1980 год працаваў кіраўніком Клецкага аддзялення Дзяржбанка СССР Мінскай вобласці, кіраўніком Маскоўскага аддзялення Дзяржбанка СССР г. Мінска. У 1982--1986 гадах на партыйнай рабоце. З кастрычніка 1986 па 1987 год -- кіраўнік Мінскай гарадской канторы Дзяржб СССР.

У 1988--1991 гадах Міхаіл Чыгір працаваў першым намеснікам старшыні праўлення Беларускага рэспубліканскага банка "Аграпрамбанк". З верасня 1991 года па ліпень 1994 года -- старшыня праўлення Беларускага акцыянернага камерцыйнага аграпрамысловага банка "Белаграпрамбанк".

Жанаты. Мае дваіх дзяцей.

### ВІНШАВАННЕ ПАТРЫЯРХА МАСКОЎСКАГА І ЎСЯЕ РУСІ АЛЯКСІЯ II

Пасля цырымоніі інаўгурацыі Яго Высокапраасвяшчэнства Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі ФІЛАРЭТ, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, уручыў Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку віншаванне Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II у сувязі з уступленнем на высокую пасаду кіраўніка дзяржавы.

У віншаванні гаворыцца:

"Ваша Правасхадзіцельства!

Промыслам Божым трымаецца жыццё ўсяго свету. Яго Промыслам уладкоўваецца жыццё народаў і краін, ад Госпада і кожнаму чалавеку вызначаецца шлях жыцця.

Веру, што і ў волевыяўленні народа Белай Русі праявіўся Божы Промысел, і вы сталі першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Няхай будзе Ваша прэзідэнцтва на карысць народа рэспублікі -- да яго згоды, яднання, духоўна-маральнага поспеху і нацыянальнага адраджэння.

Няхай паслужыць яно ўмацаванню дружбы і супрацоўніцтва брацкіх народаў!

Сардэчна віншую, Ваша Правасхадзіцельства, жадаю Вам добрага здароўя і поспехаў у Вашай працы.

Са шчырай павагай
АЛЯКСІЙ,
Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі".

*У ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"*

### ДАПАМОГА ГАЙНАЎСКАМУ МУЗЕЮ

У адпаведнасці з дзяржаўнай праграмай "Беларусы ў свеце" таварыства "Радзіма" працягвае аказваць дапамогу ў будаўніцтве музея беларускай культуры ў Гайнаўцы (Рэспубліка Польшча).

Гэтымі днямі ў Гайнаўку накіравана бязвыплатна чарговая партыя будаўнічых матэрыялаў (фасадная плітка, лесаматэрыялы), закупленых у рэспубліцы на суму каля 60 мільёнаў рублёў.

Усе матэрыялы будуць выкарыстаны для завяршэння будаўніцтва гэтага ўнікальнага культурнага цэнтра беларускай меншасці ў Польшчы.

*БЕЛАРУСЬ — ФРАНЦЫЯ*

### БУДЗЕМ МЕЦЬ "ТРАМПЛІН"

Паміж пасольствам Францыі ў Беларусі і Міністэрствам адукацыі нашай рэспублікі падпісана пагадненне аб сумесным выданні падручнікаў французскай мовы.

Мяркуецца выдаць падручнік "Трамплін" для дзяцей, якія жадаюць вывучаць французскую мову. Французскі бок акажа садзеянне ў падрыхтоў... выкладчыкаў французскай мовы, якія будуць зай... ўкараненнем новай методыкі ў беларускіх школах.

Эфектыўнасць "Трампліна" пацвердзілі ў школах Украіны, з якой раней быў падпісаны аналагічны дагавор.

*БЕЛАРУСКАЯ МАРКА*

### МАЗЫРСКАЯ СОЛЬ — ЛЕПШАЯ

Паводле вынікаў незалежнай міжнароднай экспертнай камісіі, мазырская фтарыраваная соль прызнана лепшай на сусветным рынку. Такім чынам, беларускія салявары адабралі пальму першынства ад галандцаў, прадукт якіх яшчэ да нядаўняга часу лічыўся самым лепшым па якасці і чысціні.

Трэці год у Беларусі выпускаецца фтарыраваная соль, сказаў прафесар Эдуард Мельнічэнка -- прэзідэнт Асацыяцыі стаматолагаў рэспублікі. Старт гэтаму карыснаму пачынанню дала рэспубліканская праграма прафілактыкі карыесу ў насельніцтва. Медыкі лічаць, што, падсольваючы ежу менавіта гэтай соллю, беларусы змогуць зберагчы свае зубы ад многіх напасцей.

Укараніўшы на прадпрыемстве швейцарскую тэхналогію, мазыране асвоілі і выпуск фтарыраванаёдавай солі, якая так неабходна беларускаму спажыўцу, бо ў вадзе нашай рэспублікі пастаянна не хапае фтору, ёду і кальцыю, што самым неспрыяльным чынам адбіваецца на стане зубоў насельніцтва.

На жаль, мазырская соль у беларусаў не карыстаецца попытам. Затое яе цэняць у Расіі.

*У ІМЯ МІРУ*



Афіцыйнае адкрыццё месца перазахавання астанкаў ваеннапалонных, што загінулі на тэрыторыі Беларусі ў гады другой сусветнай вайны, і ахвяр фашызму адбылося ў вёсцы Тарасава Мінскага раёна.

## ШТО НАМ ДАДЗЕНА СЁННЯ?

### Фрагменты з выступлення Прэзідэнта Аляксандра ЛУКАШЭНКІ на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Кожны просты чалавек ведае, якая спадчына нам дасталася. Шалёны, па-іншаму не скажаш, рост цэн у 3 000 разоў за апошнія гады, масавыя прастоі прадпрыемстваў, разгул злачыннасці і карупцыі давялі чалавека да адчаю: няма яснасці, якое грамадства мы будуем; ці будзе работа тым, хто яе мае сёння, і тым, хто ўпершыню ўступае ў працоўнае жыццё; ці будзе абаронена старасць; ці будзе магчымасць мець дах над галавой. Усенародна выбраны прэзідэнт і, упэўнены, кожны грамадзянін задаюць адно і тое ж пытанне: што рабіць?

Трэба без панікі ацаніць цяперашнюю эканамічную сітуацыю і рашуча пайсці на правядзенне ў кароткія тэрміны жорсткіх мер па вываду рэспублікі з вельмі глыбокага крызісу. Сёння іншага не дадзена.

На жаль, працэс інтэнсіўнага распаду народнай гаспадаркі працягваецца. Нацыянальны даход у супастаўных цэнах у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года скараціўся на 32 працэнты, у прамысловасці ён знізіўся на 34, у будаўніцтве -- на 33, у сельскай гаспадарцы -- на 4 працэнты.

Што ж сёння атрымліваецца? Высокія цэны не даюць магчымасці рэалізаваць прадукцыю, а інфляцыйныя чаканні і неплацяжы прадпрыемстваў не даюць магчымасці знізіць гэтыя цэны. У выніку на 1 чэрвеня 1994 года сума запасаў гатовага тавару на складах прадпрыемстваў і запасным частам за пастаўленую, але неаплачаную прадукцыю склала 5,3 трыльёна рублёў, г. зн. амаль месячны аб'ём вытворчасці ўсёй нашай беларускай прамысловасці.

Падаражэнню харчовых тавараў садзейнічае мноства гандлёвых пасрэднікаў. На жаль, яны ў апошні час растуць як грыбы. Перш за ўсё за кошт камерсантаў і іншых прадпрыемстваў. У выніку чаго ўстаноўленая для дзяржгандлю гранічная гандлёвая надбаўка ў памеры 30 працэнтаў іншы раз дасягае 70. А ёсць факты, калі яна дасягае 400 працэнтаў. Дзяржгандаль -- галіна, якая павінна рэгулявацца і кіравацца намі, урадам. Гэта дзяржаўны сектар. Трэба канчаць з гэтай усёдазволенасцю і наводзіць тут парадак. Мы маем намер гэтым займацца.

Працягвае нарастаць знешняя і ўнутраная запазычанасць дзяржавы. Да канца 1994 года памер знешняга доўгу складзе 2,3 мільярда долараў ЗША, ці павялічыцца за апошнія два гады амаль у 6 разоў. А гэта 220 долараў на кожнага жыхара рэспублікі і на дзіця таксама. Унутраны доўг рэспублікі ў бягучым годзе нават пры ўмове правядзення жорсткай эканоміі ўзрасце не менш чым у 10 разоў. Такія тэмпы росту знешняй і ўнутранай запазычанасці недапушчальныя. Яны набліжаюць краіну да парога эканамічнай і палітычнай бяспекі.

Якія б мне ні прыводзілі аргументы, у любым выпадку чалавек мяркуе аб палітыцы дзяржавы па свайму жыццёваму ўзроўню. А ён катастрафічна зніжаецца. Дастаткова некалькіх лічбаў. Калі за мінулы год перавышэнне росту цэн над даходамі насельніцтва склала 21 працэнт, то толькі за 6 месяцаў бягучага года -- 23 працэнты. Скажыце, як можна пражыць, калі доля мінімальнай заработнай платы ў мінімальным спажывецкім бюджэце складае толькі адну трэць? Перакладаючы на даступную мову, растлумачу, што каля аднаго мільёна чалавек у нас, мякка кажучы, у рэспубліцы жывуць за рысай беднасці, накіроўваючы амаль усе свае мізэрныя даходы на харчаванне.

Людзі бачаць, што рэзкае пагаршэнне ўмоў іх жыцця адбываецца на фоне абагачэння пэўнай праслойкі камерсантаў і надобрасумленных чыноўнікаў. Я не супраць заможных людзей, але іх багацце павінна ствараецца сумленнай уласнай працай. Амаральна выкарыстоўваць для абагачэння і недасканаласць нашага заканадаўства. У сувязі з гэтым асноўнай мэтай сацыяльнай палітыкі на бліжэйшы час павінна стаць стабілізацыя ўзроўню жыцця большасці грамадзян рэспублікі, а затым і яго павышэнне. Разумеючы, што расслаенне грамадства па ўзроўню даходаў непазбежнае, прэзідэнт і яго ўрад будуць прымаць самыя рашучыя меры супраць надобрасумленных дзялкоў. Мы пакончым з нахабнай усёдазволенасцю. У дзяржавы ёсць для гэтага сілы і магчымасці. Гэта адно з асноўных палажэнняў маёй перадвыбарнай праграмы, і яго я буду паслядоўна адстойваць у сваёй дзейнасці.

Мы разам з Вярхоўным Саветам канкрэтызуем знешнюю палітыку нашай дзяржавы. Жыццёва важна ўмацоўваць супрацоўніцтва з Расіяй, краінамі СНД. Я з'яўляюся паслядоўным прыхільнікам эканамічнага супрацоўніцтва і з усімі іншымі краінамі, знішчэння штучных бар'ераў у гандлі, пераарыентацыі знешнеэканамічнай і знешнепалітычнай дзейнасці з будаўніцтва "суверэнных агароджаў" да адкрытага ўзаемадзеяння з сусветнай супольнасцю. Неабходна ўжо ў бліжэйшы час пачаць распрацоўку комплекснага шырокамаштабнага дагавора аб даўгачасным супрацоўніцтве з Расіяй замест заключэння непрацуючых дэкларатыўных пагадненняў.

СЛОВЫ СВЕДКІ ПАДЗЕЙ 3 ЛІПЕНЯ 1994 ГОДА

# СВЯТА "СО СЛЕЗАМИ НА ГЛАЗАХ"...

Пяцьдзесят год таму назад сціхлі на нашай зямлі злавесныя грымоты вайны. Згладзіліся шрамы і рубцы ад колішніх ран на пастарэлых ветэранскіх целах. Час стаў залечваць нават самыя балючыя з іх — шрамы і рубцы на душах людзей, што пакідае нянавісць. А нянавісці хапала на той вайне. І не толькі да непасрэднага ворага, нямецкага фашызму, які варты быў той нянавісці, але і да сваіх. Так ужо наканавана нам было камуністычнай ментальнасцю, бо нянавісць да "класавага ворага", да "нянашага чалавека" якраз і была яе асноўнай рысай. Колькі было пабіта і расстраляна ў якасці "здраднікаў" людзей сваіх! А колькі паламана лёсаў і жыццяў ужо пасля вайны! Тая душэўная рана, напрыклад, якую нанеслі мне "бдительные товарищи чекисты", пасля партызанскіх і армейскіх шпіталяў, кінуўшы мяне за калючы дрот спецлагера НКВД N 180 у г.Калініне, ныла і балела куды даўжэй, чым скалечаная фашысцкаю куляю левая рука. І вось гэтыя раны нядаўна нам раскалупалі зноў...

Дзень трэцяга ліпеня, дзень пяцідзесяцігоддзя вызвалення ад нямецкай акупацыі, выдаўся як па заказу. Надзеўшы ўсе свае нешматлікія ордэны і медалі і ўзяўшы з сабою дачку з унукам, я рушыў на ўрачыстасць ускладання вянкоў да помніка Перамогі. Хацелася ціха пастаяць ля Вечнага агню, у полымі якога мне заўсёды мроіліся душы загінуўшых землякоў і блізкіх, у тым ліку дзядзькі майго Петрака з роднай вёскі Машкова на Аршаншчыне, які некалі так любіў насіць мяне, яшчэ маленькага, на руках і які так і не прыйшоў з вайны. Мроіўся і колер уласнай крыві, густа пралітай 5 снежня 1943 года ля вёскі Галавачы таго ж раёна. Хацеў пакласці там некалькі кветак і памаўчаць. Але выйшла ўсё інакш...

Ужо на пляцы Незалежнасці кінуліся ў вочы невялікія, але строга пастроеныя калоны толькі пад знаёмымі зялёна-чырвонымі бэсэсэраўскімі сцягамі і з людзьмі ў генеральскіх мундзірах з чырвонымі лампасамі сярод пярэдніх шэрагаў. Яшчэ змоладу не вельмі любячы гэтыя лампасы, я са сваімі далучыўся да калоны Беларускага Народнага Фронта, аздобленай дзяржаўнымі бел-чырвона-белымі штандарамі і рознакаляровымі сцягамі краін-супольнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Там не было генеральскіх мундзіраў, але былі затое пісьменнікі Васіль Быкаў і Артур Вольскі, быў аўтар помніка Перамогі архітэктар Г.Заборскі, былі шматлікія сябры па Дэмакратычнай асацыяцыі ветэранаў вайны, быў кандыдат у Прэзідэнты Зянон Пазьняк. І вось тады ўжо неяк амаль што скурай адчуў моцную радыяцыю нянавісці, што нябачна струменілася да нас ад тых чырвонлампасных калон. Халодна-ненавісныя, быццам праз прорэзі прыцэлаў, погляды, зняважлівыя рэплікі і сярдзітыя грымасы. Не звяртаючы, аднак, на іх увагі, калона ветэранаў ад БНФ спакойна рушыла ўздоўж праспекта Скарыны. І тут тое прыкрае адчуванне радыяцыі адразу ж забылася: на тратуарах стаялі шматлікія гурты людзей і з добразычлівымі ўсмешкамі праводзілі нашу калону воплескамі, на праспекце перад намі весела кружыліся ў танцы з прыпеўкамі беларускія народныя ансамблі, да сівых ветэранаў падскоквалі маладыя дзяўчаты і падносілі ім букеты, а да Зянона Пазьняка падбегла прыгожая жанчына і дала яму патрымаць на руках сваё дзіця. Ад гэтага казытала ў носе і чулася, што недарэмна мы пакутавалі на фронце і ў партызанах, што ваявалі мы вось за гэтую мілую моладзь, ваявалі за вызваленне нашае роднае Беларусі, якая толькі зараз, амаль праз паўстагоддзя стала ўрэшце сапраўды свабоднай, атрымала незалежнасць і сваю ўласную дзяржаўную сімволіку, свой уласны дзяржаўны сцяг. Якое шчасце, думалася мне, быць свабоднымі і незалежнымі ні ад кога. Эканамічны крызіс? Правярэмся! Было ў ваенныя гады ў нас такое слоўца, якое сапраўды дапамагала вырвацца з любое блакады і не загінуць. Не прападзем і цяпер з адзінаццацімільённым працавітым народам у краіне з чароўнай і багатай прыродаю. Няўжо мы горшыя, скажам, за фінаў, не кажучы ўжо пра шведаў, якіх амаль што напалову менш, чым нас, і якія жывуць дай Бог кожнаму? Няўжо не выжывем як самастойная дзяржава?

Так вось прыемна думалася, калі раптам, глянуўшы наперад, я заўважыў на падзароне ачышчаным ад людзей праспекце падвойны ланцуг людзей у міліцэйскай форме, што перагароджваў нам шлях да абеліска Перамогі. Яны яўна намерваліся сілаю не дапусціць нашу ветэранскую калону да помніка і да Вечнага агню. А людзі ў калоне, нічога не падазраючы, працягвалі рух. І тады пачалася непрыгожая, страшная тузаніна. Мой унучак Алесь паспеў толькі крыкнуць мне: "Дзядуля, у іх жа на плячох такая ж Пагоня, як і на нашых сцягах! Чаму ж яны супраць нас?", як аказаўся збітым з ног і з разбітым гадзіннікам. У мяне быў сарваны медаль, я ледзь не згубіў пантофель. Немаладую, з кіёчкам жанчыну ў ордэнах і медалях звалілі на асфальт, і амонавец, што аказаўся побач, нават падняцца ёй не дапамог. Не хочацца і ўспамінаць тыя ганебныя, страшныя дэталі. А тым часам наперадзе ля моста праз Свіслач чакаў нас наступны ланцуг малойцаў з чорнымі берэтамі, якія, праўда, пасля перагавораў Зянона Пазьняка з іх начальнікам не сталі нас чапаць і прапусцілі з неахвотаю далей. І ля самага ўжо помніка перад намі паўстаў яшчэ адзін ланцуг, за якім густа напіраў натоўп раз'ятраных маладых людзей у чорных кашулях і з нейкімі значкамі на грудзях. Яны проста рваліся ў бойку з ветэранамі. А над усім гэтым сімвалічна рэяў у паветры вялізны чырвоны лозунг "Да здравствует Советский Союз!".

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# У БЕЛАРУСІ НЕ РАЗАРЫЎСЯ ЯШЧЭ НІВОДЗІН БАНК

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

-- Ну а што ж у гэтым дрэннага? Даўно пара пераходзіць да нармальных фінансавых адносін, тады хутчэй усе нашыя эканамічныя хваробы можна будзе вылечыць.

**-- Цяперашняе кіраванне банкамі ажыццяўляецца таксама па традыцыйнай еўрапейскай схеме!**

-- Так. Вышэйшым органам кіравання з'яўляецца агульны сход акцыянераў, які збіраецца адзін раз у год. На ім выбіраецца савет банка, ён наймае праўленне і яго старшыню, з якім заключае асобны кантракт. Праўленне і ажыццяўляе штодзённае аператыўнае кіраванне банкам. Чым больш вынікова працуе праўленне, старшыня, тым большую зарплату яны атрымліваюць.

**-- Калі кожны асобны банк такі самастойны, навошта была створана асацыяцыя банкаў?**

-- Такія асацыяцыі існуюць практычна ва ўсіх краінах свету і адыгрываюць адметныя ролі. Навошта наша асацыяцыя? Пачну крыху здалёк. Нацыянальны банк Беларусі вызначае асноўныя напрамкі грашова-крэдытнай палітыкі, стварае той правабы "калідор", у якім працуе ўся банкаўская сістэма. Гэтыя нарматыўныя акты аднолькавыя для ўсіх банкаў, незалежна ад формы ўласнасці. Нацыянальны банк кантралюе іншыя банкі, але ён для іх, вобразна кажучы, не камандзір. Зараз у Беларусі зарэгістраваны, як мне вядома, больш за трыццаць банкаў. Усе яны практычна незалежныя. Але тым не менш узнікаюць пытанні, якія трэба вырашаць сумесна. Напрыклад, распрацоўваць і прапаноўваць законапраекты Вярхоўнаму Савету, рыхтаваць кадры.

У штаце асацыяцыі сёння працуе шэсць чалавек, гэта грамадская арганізацыя. Існуе яна ўжо два гады, і ўвесь гэты час я працую тут. Павінен заўважыць, што непасрэдна асацыяцыя не займаецца ніякай камерцыяй. Грошы на ўтрыманне, наогул для работы даюць банкі, якія ўваходзяць у асацыяцыю. Вышэйшым органам асацыяцыі з'яўляецца асамблея, на якую збіраюцца амаль ці не ўсе банкіры Беларусі.

**-- Яўген Іванавіч, я так разумею, што вам даводзіцца даволі часта тлумачыць рэчы, здавалася б, элементарныя...**

-- ...напрыклад, што такое банк і навошта ён патрэбны. Так, у нашага сучаснага абывацеля моцна скажонае ўяўленне аб рабоце банкаў. У многіх банкі асацыіруюцца з тымі людзьмі, што ў іх працуюць. Усе ж банкаўскія служачыя працуюць па найму. Падкрэсліваю: па найму. Але не выключана, што сярод іх ёсць уладальнікі акцый, г.зн. -- акцыянеры.



"ПРЫЮРБАНК" набыў ва ўласнасць два камфартабельныя лайнеры ТУ-154М і ў якасці доўгатэрміновай інвестыцыі перадаў іх Гомельскаму авіятраду.

Гэтай акцыяй "Прыорбанк", адзін з буйнейшых у фінансавай сферы, у пэўнай меры развеяў няправільныя ўяўленні пра тое, быццам камерцыйныя банкі мала клапоцяцца аб інтарэсах рэспублікі.

НА ЗДЫМКУ: у час цырымоніі перадачы самалётаў.

**-- Тады пастаўлю "абывацельскае" пытанне некалькі інакш: ці не "нажываюцца" няправедным шляхам акцыянеры!**

-- Вось мы нарэшце і дайшлі да "нажывы". Скажу шчыра, мне наогул вельмі не падабаецца гэтае слова. Я магу пагадзіцца з мэтазгоднасцю яго выкарыстання толькі ў выпадках, калі банкаўская працэнтныя стаўкі будуць значна вышэйшыя за ўзровень інфляцыі, скажам -- 3 000 працэнтаў гадавых. Абвінавачванні ў адрас банкаў, што тыя даюць крэдыты пад занадта вялікія працэнты, -- сёння рэч даволі пашыраная. Безумоўна, усе жадаюць узяць крэдыт пад невялікі працэнт. Але хто дасць банку грошы пад гэты невялікі працэнт? Спытайцеся ў таго ж незадаволенага прэтэндэнта на крэдыт: а сам ён пакладзе свае рублі пад, скажам, 100 працэнтаў гадавых? Зразумела не, бо ў такім выпадку інфляцыя абясцэніць гэтыя грошы вельмі хутка.

Так, можна даць грошы пад невялікія працэнты, але для гэтага патрэбна дадатковая эмісія альбо наогул "умоўныя" грошы, г.зн. напісаць, што, напрыклад, сельскай гаспадарцы выдаткоўваецца вось столькі мільярдаў. А саміх жа гэтых мільярдаў няма ў прыродзе. У выпадку дадатковай эмісіі "паперкі" ёсць, толькі і тады яны "пустыя", не забяспечаныя таварнай масай. Падобным чынам у нас нярэдка ўсё і робіцца. Адсюль і нястрымны рост амерыканскага долара на нашых біржах. Прыходзяць туды пакупнікі валюты з безнаяўнымі "пустымі" рублямі, а кожны ж прапануемы долар атрымана за канкрэтны тавар.

**-- Ці варта тады мець асабісты рахунак у банку?**

-- Варта ці не, кожны павінен вырашаць сам. Сёння нашы банкі даюць гарантыю, што ў выпадку ліквідацыі здолеюць разлічыцца з даўгамі. Менавіта за гэтым сочыць Нацыянальны банк Беларусі. У нас у краіне не разарыўся пакуль ніводзін банк.

Для масавага абслугоўвання грамадзян у Беларусі, як і раней, працуе Ашчадны банк. У яго адзінага ў поўнай афіцыйнай назве стаіць слова "дзяржаўны". Чаму? Ашчадны банк працуе з грашыма насельніцтва, г.зн. па сваёй сутнасці з'яўляецца прыватным, але ў ім гарантам надзейнасці і абавязковасці выступае дзяржава, таму і дзяржаўны.

Дарэчы, хачу засяродзіць увагу ўладальнікаў свабодна канверсаванай валюты: такіх валютных дэпазітных ставак, як у беларускіх банках -- да 30 працэнтаў гадавых, практычна нідзе няма. У Эстоніі, напрыклад, яны не перавышаюць 10--15 працэнтаў. А ў Еўропе і таго менш: там кліент атрымлівае 7--10 у год. Такога, як у нас, -- 25 долараў на кожную тысячу ў месяц -- няма. Між іншым гэтую стаўку мы прапануем і за межамі Беларусі, у краінах, дзе беларускія банкі маюць свае карэспандэнцкія адносіны. Таму запрашаем замежных кліентаў да нас. Яны застануцца ў значным прыбытку.

**-- І ніякай рызыкі!**

-- Рызыка ёсць паўсюль. Але хто не рызыкуе, той і не выйграе.

**-- Яўген Іванавіч, але не толькі дэпазітныя стаўкі ў еўрапейскіх банках значна ніжэйшыя за вашы, але ж і стаўкі па крэдытах таксама, мабыць, значна меншыя!**

-- Сапраўды, камерцыйны валютны крэдыт на ўнутраным рынку нашы банкі даюць пад 40 працэнтаў гадавых, у той час як еўрапейскія банкі -- пад 10. Але ўсё вызначаюць суадносіны попыту і прапанавання. Апошняе ў нас звычайна вельмі адстае ад першага. Вось калі рынак будзе насычаны грашовымі рэсурсамі, тады і нашы стаўкі наблізяцца да агульнаеўрапейскіх.

-- Хацелася б, каб вы адказалі яшчэ на адно **"абывацельскае" пытанне. Ці не атрымліваецца так, што большасць з банкаўскіх акцыянераў валодаюць мізэрнай доляй акцый і служаць своеасаблівай шырмай для тых, каму належыць ільвіная частка акцый і хто фактычна і валодае банкам!**

-- Скажу коратка: мне невядомыя такія выпадкі.

**-- Але тым не менш на сесіі Вярхоўнага Савета не раз гучалі абвінавачванні ў махінацыях некаторых даволі вядомых беларускіх камерцыйных банкаў.**

-- Зыходзіць трэба ў першую чаргу з таго, парушана літара закону ці не. Як мне вядома, у тых выпадках, пра якія казалі члены антыкарупцыйнай камісіі, закон парушаны не быў. На жаль, сёння ў нас нярэдка ў выключна эканамічную сферу ўрываецца палітыка, і тады палітычная кан'юнктура падмінае пад сябе ўсё. Вельмі хацелася б, каб гэтага не было, каб кожны адказваў сам за сябе, не шукаючы заложнікаў па баках, у тым ліку і сярод банкаў, ролю якіх у эканоміцы нярэдка параўноўваюць з роляй крывяноснай сістэмы ў жывым арганізме, дзе любая закупорка -- выпадковая ці наўмысная -- азначае гібель.

Гутарку вяла
Галіна УЛІЦЁНАК.

## З ГІСТОРЫІ БЕЖАНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

# БЕЛАРУСЫ НА АБШАРАХ РАСІІ

Першая сусветная вайна змусіла больш за 1 мільён беларусаў пакінуць Бацькаўшчыну ды падацца ў бежанства ў Расію. З восені 1915-га да канца 1917 года чароды ўцекачоў па вялікіх ды малых дарогах цягнуліся на ўсход -- у цэнтральныя раёны Расіі, у Паволжа і ажно ў Сібір. Ад пачатку вайны імперская прапагандысцкая машына сеяла сярод цывільнага насельніцтва прыфрантавых раёнаў погалас пра жахі паднямецкага жыцця, праваслаўныя духоўнікі галасілі пра смяротную небяспеку "матушцы Расеі". Спалоханых і дэзарыентаваных людзей абяцанкамі розных дабротаў-прывілеяў клікалі на ўсход -- "пад апеку адзінакроўных праваслаўных братоў".

Адладжана працаваў і механізм прымусовае эвакуацыі -- тэрытарыяльная вайсковая адміністрацыя, не пытаючыся нічыёй згоды, выпраўляла людзей на чужыну. Паводле дзяржаўных планаў эвакуацыі вывазу ў далёкі тыл падлягалі многія прадпрыемствы, навучальныя ды іншыя ўстановы разам з персаналам. Гэткім чынам з цягам часу па-за Беларуссю ўзніклі анклавы беларускага насельніцтва.

Хутка выявілася, што дэкляраваныя дзяржавай праграмы юрыдычнай і сацыяльнай дапамогі для ўцекачоў былі ўсяго прапагандысцкай маной. Сапраўдны сэнс эвакуацыі -- захаваць матэрыяльныя і людскія рэсурсы для дзяржавы, а не клопат пра долю суайчыннікаў. Выкінутыя на чужыну беларусы, палякі, украінцы, летувісы, латышы ды іншыя мусілі самі вырашаць праблемы свайго выжывання. Лёс уцекачоў быў надта мізэрнай праблемай для дзяржавы, і без таго здратаванай жорсткім нутраным палітычным і эканамічным крызісам. Ва ўнутраных губернях Расіі натоўпы ўцекачоў яшчэ больш абвастралі праблему беспрацоўя, паліўны і жыллёвы, харчовы ды іншыя дэфіцыты, чым выклікалі раздражнёнасць і непрыхільнасць да сябе з боку тубыльцаў.

Урэшце, інстынкты самазахавання і нацыянальнай узаемадапамогі падштурхнулі беларусаў ды ўцекачоў іншых нацыянальнасцей да арганізацыі ўласных дапамаговых і дабрачынных камітэтаў, бальнічных кас і фондаў, прафсаюзаў і культурнаасветных аб'яднанняў. Падобная кааперацыя грунтавалася выключна на нацыянальным прынцыпе. Выпадкі міжнацыянальнага гуртавання здараліся рэдка. Арганізацыі беларусаў напачатку ўтвараліся паводле геаграфічнага прынцыпу і называліся афіцыйна "паўночна-заходнімі". Але з цягам часу эканамічнае гуртаванне развілося ў нацыянальнае. Прыкладна з пачатку 1917 года большасць арганізацый называліся ўжо "беларускімі". Апынуўшыся ў сапраўднай, этнічнай Расіі, уцекачы-беларусы пазбаўляліся ілюзій адносна ўласнае "рускасці", прышчэпленай ім на Бацькаўшчыне імперскай русіфікацыйнай сістэмай адукацыі і асветы, праваслаўнай царквой ды іншымі дзяржаўнымі і афіцыйнымі грамадскімі ўстановамі.

Асабліва прыспешылі ідэйную і нацыянальную эвалюцыю бежанскай масы лютаўская і кастрычніцкая рэвалюцыі 1917 года. Праклямаваная імі ідэя нацыянальнае роўнасці і права нацый і народаў былое царскае Расіі на самавызначэнне сталася праграмным падмуркам дзейнасці беларускіх бежанскіх арганізацый. Ад сярэдзіны 1918 года беларускі бежанскі рух у Расіі ў асноўным уступіў у нацыянальна-палітычную фазу развіцця. Удалечыні ад Беларусі згуртаваныя ўцекачы ўсвядомілі родную мову духова-нацыянальнай і культурнай каштоўнасцю, загаварылі на поўны голас аб сваіх нацыянальных патрэбах і выставілі патрабаванні стварэння беларускай дзяржаўнасці. Хоць гістарычная навука дагэтуль не вывучала бежанства як самаісную, унікальную з'яву, але наўрад ці будзе перабольшанай выснова, што яно адыграла велізарную ролю ў падрыхтоўцы грамадскай глебы, у фармуляванні і абароне ідэі дзяржаўнасці Беларусі. Бежанства, апрача таго, дало магутны імпульс беларускаму руху 20--30-х гадоў і выхавала нацыянальна многіх будучых актыўных працаўнікоў беларушчыны.

Чыннасць уцекачоў адбывалася ва ўмовах нespрыяння або варожасці з боку ўсіх без выключэння расійскіх палітычных плыняў -- манархістаў, "лютаўскіх" дэмакратаў, белагвардзейцаў ці бальшавікоў. Праз увесь час існавання гэты рух сілкаваўся выключна нацыянальным пачуццём, уласнымі ідэйнымі і матэрыяльнымі высілкамі. Трэба прызнаць не адпавядаючым сапраўднасці пашыранае сцвярджэнне аб інспірацыі ды падтрыманні бежанскага руху створаным з санкцыі вышэйшага партыйна-савецкага кіраўніцтва РСФСР адмысловым органам Беларускага нацыянальнага камісарыята. Ёсць важкія падставы для меркавання, што менавіта Белнацком, намагаючыся ўсталяваць сваю ідэалагічную і арганізацыйную гегемонію над бежанскім рухам (часам пры дапамозе карных савецкіх органаў), спрычыніўся да дэзарганізацыі апошняга. Тым часам нацыянальна-культурную патэнцыю Белнацкома справядліва будзе назваць мізэрнай.

Гісторыя беларускіх бежанскіх арганізацый у Расіі мае шырокую геаграфію. Значнымі цэнтрамі гэтага руху былі Масква і Пецярбург, Арэнбург і Саратаў, Казань і Яраслаўль, Пскоў, Арол, Барнаул, Тула і Багародзіцк Тульскае губерні, Калуга ды іншыя гарады. На жаль, гэтыя цэнтры пакуль не вывучаліся гісторыкамі. Гістарыяграфія беларускай дыяспары на Захадзе дасягнула надзвычайнай у параўнанні з Усходам вышыні. Праблематыка Усходу застаецца занядбаная, і не назіраецца росту зацікаўленасці даследчыкаў да яе. Гэткім чынам, аддаляецца перспектыва напісання і выдання агульнай гісторыі беларускай дыяспары, якая была б значным інтэлектуальным набыткам сённяшняга і ўсіх наступных пакаленняў нашай нацыі.

Каштоўнай крыніцай да гісторыі беларускай эміграцыі на Усходзе з'яўляюцца дакументы Белнацкома, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве навукова-тэхнічнай дакументацыі (былым ЦДАКР і СБ) у Мінску. Ніжэйпададзеныя невялічкія нататкі грунтуюцца на матэрыялах фонду N 4, справа N 108 і перыядычным тагачасным друку.

### ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ МОЛАДЗІ (КАЛУГА)

Асаблівай ініцыятывай і энергіяй вылучаліся сярод іншых уцекачоў вучні сярэдніх і вышэйшых устаноў. Рознымі шляхамі патрапілі гэтыя юнакі ў бежанскі вырай. Адны выехалі разам з бацькамі ды ўжо на чужыне пачалі вучыцца. Другія эвакуяваліся разам з сваімі вучэльнямі з Вільні, Горадні, Беластока, Маладэчна ды іншых, пераважна заходнебеларускіх гарадоў. Яшчэ жывучы на Бацькаўшчыне, некаторыя юнакі праз газету "Наша ніва" ды іншую літаратуру запазналіся з ідэямі беларускага адраджэння. Разам з эвакуацыяй вучэльняў яны пераносілі ў глыб Расіі "вірус" беларушчыны. Знаходжанне на чужыне, праўдападобна, толькі ўзмацняла малады сентымент да свайго краю і народу. Уплывалі на рост нацыянальнай самасвядомасці ўцекачоў і весткі пра пашырэнне на Бацькаўшчыне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, пра адкрыццё на акупаванай немцамі тэрыторыі беларускіх школ і нацыянальна-культурных устаноў, пра пачатак тварэння незалежнай Беларускай дзяржавы.

**Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.**

**(Працяг будзе).**

# СВЯТА "СО СЛЕЗАМИ НА ГЛАЗАХ"...

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Толькі апанаванасць і мужнасць Зянона Пазьняка як вядучага калоны прадухіліла запланаванае, магчыма, кровапраліцце: ён павярнуў нашу калону назад да помніка Купале, дзе на стыхійным мітынгу мы і адвялі свае душы ў гнеўных, абураных прамовах.

Вось так, сілаю міліцыі ветэранаў вайны, шчырых патрыётаў сваёй рэспублікі, пазбавілі магчымасці ўскласці вянкі да Вечнага агню ля помніка Перамогі ў дзень пяцідзесяцігоддзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Ужо аднаго такога неверагоднага факта ў цывілізаванай краіне хапіла б для таго, каб ураду яе адправіцца ў ганебную адстаўку. У нас жа за гэтым фактам хавалася нешта яшчэ больш нечуванае па сваёй брыдоце, цынічнасці і блюзнерству. Справа ў тым, што, як стала вядома пазней, менавіта тады, калі ўлады збіраліся задаць нам, ветэранам барацьбы за Беларусь і за яе свабоду, магчыма, і крывавую лазню, побач з помнікам у гонар тых, хто палёг у гэтай барацьбе, адбывалася не што іншае, як здача той свабоды і незалежнасці на карысць Расіі. Менавіта там праходзіла завяршэнне акта падпісання дагавора паміж Кебічам і Чарнамырдзіным аб уключэнні Рэспублікі Беларусь у расійскую рублёвую зону. І рабілася гэта пад тым самым лозунгам "Да здравствует Советский Союз!" ва ўрачыстых абставінах і з традыцыйнымі пацалункамі ўзасос паміж галоўнымі дзеючымі асобамі. А каб усё прайшло без перашкод, з панам Чарнамырдзіным прыехала з Масквы вялікая група баркашоўцаў, тых самых, апранутых у чорныя кашулі і даволі ўжо вопытных у касталомнай справе. Якраз яны ў кампаніі з мясцовым "славянскім" саборам і намерваліся добра намяць нам, незалежнікам, нашы старыя, паскрэбаныя кулямі бакі...

Цяжка знайсці ў багатай увогуле дзівосамі гісторыі што-небудзь больш цынічнае, чым тое "дзейства", што было разыграна трэцяга ліпеня ў Мінску на плошчы Перамогі. Некалі Гітлер, змусіўшы ў пачатку вайны Французскую Рэспубліку да здачы, каб яшчэ больш прынізіць яе, загадаў спецыяльна адшукаць той самы вагон, у якім была падпісана капітуляцыя Германіі ў першай сусветнай вайне. І менавіта ў гэтым вагоне прыняў капітуляцыю петэнаўскай Францыі. Куды больш эфектным і ўразістым паказалася кебічаўскай уладзе падпісаць амаль што аналагічны па сэнсу дагавор аб здачы беларускай свабоды і незалежнасці ў дзень яе вызвалення.

Хацелася нястрмна смяяцца і плакаць, гледзячы на гэты фарс. Смяяцца з таго, што такое здараецца на свеце. Плакаць жа таму, што здарылася такое менавіта ў нас. Сапраўды ўжо свята -- "со слезами на глазах". Хацелася ўстаць і крыкнуць на ўсю рэспубліку: "Людцы добрыя! Няўжо вы і зараз не бачыце і не разумееце, што перад вамі робіцца?".

А мае старыя раны тым часам зусім разбаліся. Баляць і зараз, асабліва тыя, што на душы...

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**былы начальнік штаба атрада 2-й Заслонаўскай брыгады, інвалід Айчыннай вайны.**



**Ветэран Вялікай Айчыннай вайны Марыя Палякова цяпер жыве ў Салігорску. Яе часта запрашаюць у школы, прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы, дзе яна выступае з успамінамі аб суровых ваенных гадах (на здымку).**

**Марыя Міхайлаўна родам з Татарыі. У далёкім 1940 годзе скончыла "на выдатна" сярэднюю школу. Нядрэнна ведала нямецкую мову, і ёй прапанавалі выкладаць яе ў сельскай школе. Калі пачалася вайна, дзяўчына прыйшла ў ваенкамат і папрасілася добраахвотнікам на фронт. І толькі ў маі 1942 года яе просьбу задаволілі, накіравалі ў дзеючую армію на Паўночна-Заходні фронт у полк сувязі. Сувязістам прайшла вайну, удзельнічала ў вызваленні Беларусі.**

**Пасля вайны М. Палякова стала працаваць настаўніцай у школе ў Бабруйску -- горадзе, які вызваляла.**

**Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ.**

## ХРОНІКА МАБ

### НАСТУПНЫ КАНГРЭС — У 1995 ГОДЗЕ

Адбылося чарговае пасяджэнне Міжнароднага камітэта беларусістаў, у якім апрача беларускіх вучоных прынялі ўдзел іх калегі з Германіі, ЗША, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны. Адным з асноўных было пытанне аб часе, месцы і тэматыцы наступнага, другога Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Пасля доўгіх дэбатаў было вырашана правесці яго ў канцы мая наступнага года ў Мінску. Праблематыка яго папярэдне акрэслена так: "Беларусь паміж Усходам і Захадам. Праблемы этнічнага, канфесійнага і культурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу". У час кангрэса мяркуецца правесці паралельныя пасяджэнні, прысвечаныя беларуска-латышскаму, беларуска-літоўскаму, беларуска-польскаму, беларуска-рускаму і беларуска-ўкраінскаму культурнаму ўзаемадзеянню (культура тут маецца на ўвазе ў шырокім сэнсе гэтага слова — з уключэннем мовы, літаратуры, гісторыі, мастацтва). Камітэт даў бюро права канчаткова вызначыць праблематыку, устанавіць квоты прадстаўніцтва (запрашэнні будуць скіраваны і індывідуальным сябрам).

На пасяджэнні адбыўся таксама ажыўлены абмен думкамі аб становішчы ў нацыянальных і рэгіянальных асацыяцыях, заслухана справаздача рэвізійнай камісіі. Адбылася прэзентацыя чарговага зборніка асацыяцыі "Беларусіка-III" (ад выдавецтва "Навука і тэхніка" тут выступіла загадчыца рэдакцыі Л.Пятрова).

### НА НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ

Параіўшыся з зарубежнымі калегамі, Міжнародны камітэт беларусістаў выступіў з ініцыятывай вылучыць на атрыманне Нобелеўскай прэміі народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, якому па вядомасці ў свеце сярод дзеячаў беларускай літаратуры няма роўных. Па няпоўных падліках, яго творы перакладзены на 52 мовы.

Мяркуецца, што ў падтрымку кандыдатуры Васіля Быкава выступяць як нацыянальныя асацыяцыі беларусістаў розных краін, так і паасобныя лаўрэаты Нобелеўскай прэміі. Ёсць надзея, што ў арганізацыі справы дапаможа шведскі перакладчык беларускага пісьменніка Стафан Скот.

**Алеся БЕЛАВУСАВА,**
**рэферэнт МАБ.**

97

Ім падпарадкоўваліся ўсе базыльянскія кляштары. У мястэчку Жыровічы Слуцкага павета стваралася уніяцкая семінарыя з праваслаўнай арыентацыяй і спынялася сумеснае навучанне будучых уніяцкіх і каталіцкіх святароў на багаслоўскім факультэце Віленскага універсітэта. Састарэлы мітрапаліт Булгак павінен быў згаджацца з усім за тое, што яго цярпелі і не адбіралі ўстаноўленыя прыбыткі. Фактычным кіраўніком царквы зрабіўся Сямашка, які неўзабаве атрымаў дастойнасць біскупа. Новая уніяцкая калегія, члены якой, акрамя Сямашкі, не ведалі, да чаго хіліцца справа, пачала дабівацць сваіх даўніх апанентаў-базыльян. За першыя тры месяцы яна закрыла 57 з 87 базыльянскіх кляштараў, а іх фундушы перадала беламу духавенству.

## 8.2. Узвышэнне праваслаўя

**СІЛАВАЯ ЭКСПАНСІЯ РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ.** Дзейсны ўдзел уніяцкіх манахаў і некаторых папоў у паўстанні 1831 года выклікаў новы наступ на унію. Сямашка і Мураўёў прапаноўвалі ўвогуле скасаваць яе адміністрацыйным парадкам. Але царызм устрымаўся ад гвалту, бо пабаяўся народнага гневу ды і не жадаў псаваць адносіны з Ватыканам, якому уніяты, хоць і фармальна, але падпарадкоўваліся. Тым не менш, узнавілася зачыненне базыльянскіх кляштараў, распачалася русіфікацыя уніяцкага духавенства. Вольныя пасады замяшчаліся асобамі, што скончылі духоўныя семінарыі ў Расіі. Дзяцей літоўска-бе-

98

ларускіх святароў у мэтах дэнацыяналізацыі пасылалі ў рускія духоўныя школы Украіны. Усё вышэйшае кіраўніцтва царквы павінна было складацца з рускіх і надзейных мясцовых святароў. Сямашка стаў архібіскупам Літоўскім, а крыху пазней годнасць біскупаў набываюць і яго хаўруснікі ў барацьбе з каталіцызмам Язэп Жарскі, Антон Зубко, Васіль Лужынскі.

Для ўзмацнення наступу на уніяцкую веру адной Магілёўскай праваслаўнай епархіі на ўсю Літву-Беларусь не хапала, а таму ў 1832 годзе ствараецца другая з цэнтрам у Полацку. Яе біскуп Смарагд Крыжаноўскі разам з тутэйшымі губернатарамі Хаванскім і Шрэдэрам пачаў сілай далучаць уніятаў да праваслаўя. Гэта выклікала вялікае абурэнне і злосць народа. Галоўных уз'яднальнікаў сяляне маёнтка Азярышча Гарадоцкага павета нават хацелі ўтапіць, і тыя ледзь паспелі ўцячы. На дваранскіх выбарах у Віцебску 172 шляхціцы падпісалі Акт пратэсту. Папярэдне павятовы маршалак Людвік Белікові́ч ездзіў па маёнтках і агітаваў за унію. Шляхту цар супакоіў пагрозай канфіскацыі маёмасці. Але ад метаду перапіскі цэлых парафій у праваслаўе прыйшлося адмовіцца, а Смарагда перавесці ў іншае месца.

**ПАЎЗУЧАЯ ЭКСПАНСІЯ РУСКАГА ПРАВАСЛАЎЯ.** Расійскі ўрад і яго верны слуга Сямашка прыйшлі да думкі, што трэба рыхтаваць ліквідацыю уніяцкай царквы шляхам паступовага ўвядзення ў ёй абраднасці рускай праваслаўнай царквы. У лютым 1834 года нарада уніяцкіх біскупаў, большасць якіх ішла за Сямашкам, абавязвала прыходскіх святароў ка-

99

рыстацца ў набажэнстве праваслаўнымі служэбнікамі маскоўскага выдання і выказвалася на карысць праваслаўных абрадаў. Бяднейшым цэрквам выдзялялася фінансавая падтрымка. Не ўсюды русіфікацыя ішла гладка. 60 уніяцкіх святароў Наваградскага павета адмовіліся прымаць праваслаўныя служэбнікі і падалі аб тым запіску. У іншых месцах новыя служэбнікі проста моўчкі не выкарыстоўваліся. Тады Сямашка загадаў збіраць па цэрквах уніяцкія старадрукі і паліць іх на вогнішчах. Святароў прымушалі каяцца, а тых, хто не згаджаўся, каралі турмою ці высылкаю ў манастыр.

З 1835 года пачалося здзяйсненне планаў Сямашкі па ўвядзенню ва уніяцкую царкву праваслаўных абрадаў. Найцяжэй было замяніць невысокія загародкі іканастасамі, бо дзяржаўных сродкаў для таго не хапала. Але міністр унутраных спраў Расіі знайшоў выхад. Ён загадаў рабіць гэта панам рымска-каталіцкай веры на той падставе, што трэба задаволіць рэлігійныя запатрабаванні сялян, якія прыносяць ім карысць сваёй працай. У 1836 годзе з уніяцкіх цэркваў былі вынесены арганы, перароблена шмат іншага, пасля чаго яны ўжо мала чым адрозніваліся ад звычайных праваслаўных храмаў. Нарэшце было загадана весці метрычныя кнігі уніятаў на рускай мове. Усе гэтыя перамены суправаджаліся гвалтам і здзекамі. Непісьменнае сялянства, хоць і не разумела мэтаў перамен, але абуралася забаронаю старых абрадаў, з якімі звыклася за доўгі час існавання уніі. Асабліва вялікі пратэст падняўся на Беласточчыне. Ад праваслаўных абрадаў ад-

100

мовілася 15 парафій. Пратапоп Сасноўскі, папы Гаворскі і Панькоўскі арганізавалі прашэнне цару аб абароне іх веры, але ў адказ выклікалі толькі рэпрэсіі.

**СКАСАВАННЕ УНІЯЦТВА.** У 1837 годзе настаў момант, калі можна было пазбавіць уніяцкую царкву самастойнасці і падпарадкаваць яе царкве праваслаўнай. З гэтай мэтай Грэка-уніяцкая калегія перадавалася пад загад Сіноду. Далучэнне пайшло шпарчэй. У пачатку 1838 года паміраюць мітрапаліт Булгак і пінскі біскуп Жарскі, якія супраціўляліся "ўз'яднанню". На чале Полацкай епархіі становіцца Васіль Лужынскі. У Сямашкі развязваюцца рукі.

Колькасць прыхільнікаў далучэння да праваслаўя паступова ўзрастала. Уніяцкія папы жылі бедна, нярэдка цярпелі пагарду з боку ксяндзоў, залежалі ад падачак спаланізаваных паноў, бачылі шмат здзекаў з уніяцкага сялянства, якія чыніла рымска-каталіцкая адміністрацыя маёнткаў. Пад уплывам царскай агітацыі яны шчыра верылі, што праваслаўны ўрад больш паклапоціцца аб жыцці сваіх аднаверцаў. Да таго ж ад святароў прымусам бралі падпіскі аб іх згодзе на далучэнне да праваслаўя. Таму з 1838 года большасць уніятаў ужо моўчкі чакала скону сваёй царквы. І толькі найбольш фанатычныя працягвалі барацьбу. У верасні ў вёсцы Царкоўня Дрысенскага павета сабраліся святары Полацкай акругі і склалі прашэнне на імя цара, каб ён даў ім праўдзівых уніяцкіх біскупаў, дазволіў адчыніць друкарню уніяцкіх выданняў і духоўныя школы, або не чыніў перашкод для пераходу ў каталіцкае веравызнанне. Петыцыю

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

101

падпісала ад імя сваіх парафій 111 папоў. А арганізатарамі гэтага пратэста былі вельмі адукаваныя для свайго часу святары Ян Ігнатовіч і Адам Тамковіч. Іх чакала зняволенне ў манастыры Курскай губерні, якой тады кіраваў М.Мураўёў. Не пазбеглі рэпрэсій і іншыя.

Унію не выратоўвалі асобныя пратэсты. Сакрэтны камітэт па уніяцкіх справах у Пецярбургу ўжо рыхтаваў мерапрыемствы па яе скасаванню. У лютым 1839 года ў Полацку адкрыўся сабор уніяцкіх біскупаў. Мясцовай ад[illegible]страцыі загадалі прыняць меры перасцярс[illegible] на дапамогу прыслалі казакоў. Урад чакаў супраціўлення. Але сабор прайшоў ціха. На чале яго стаялі Язэп Сямашка, Васіль Лужынскі і Антон Зубко. Саборны акт "уз'яднання" уніятаў з праваслаўнай царквою падпісалі 24 асобы. Усе яны былі беларусамі, акрамя Сямашкі. Далучэнне парафій праходзіла даволі сп[illegible]на, таму што да гэтага ўлады загадзя па[illegible]хтаваліся. Аднак скасаванне уніяцкай царквы зусім не азначала, што разам з ёй знікала і уніяцкая вера. Зусім не так. Яна працягвала сваё патаемнае жыццё ў народзе. І тут царызм быў бяссільным.

**АЛЕ ЦІ МОЖНА БЫЛО ЎРАТАВАЦЬ УНІЯЦКУЮ ЦАРКВУ!** Унія, як кампраміс праваслаўя і каталіцызму, магла існаваць у талерантнай Рэчы Паспалітай, але была несумяшчальнай з дэспатызмам расійскага самаўладдзя, з рускай імперскай ідэяй. Шляхам поўнай ліквідацыі уніі царскі ўрад дамогся ас-

102

лаблення каталіцызму і ўзмацнення праваслаўя на Літве-Беларусі, вызвалення беларускіх уніятаў ад царкоўнай падлегласці Рыму, а разам з тым і ад культурнага ды палітычнага ўплыву Польшчы і Захаду ўвогуле. Унію не ратоўвала ўзнаўленне Рэчы Паспалітай, дзяржавы не даўнейшай, а новай (рэальна польскай імперыі са старой назвай), дзе уніятаў хутчэй за ўсё чакала далучэнне да каталіцызму. Унія магла стаць дзяржаўнай рэлігіяй адбудаванага і незалежнага Вялікага Княства Літоўскага, але яна была зруйнавана яшчэ да таго, як літоўска-беларуская зямля нарадзіла барацьбітоў за сваю незалежнасць. Такім чынам, скон уніяцкай царквы быў непазбежным. Пасля таго, як перастала існаваць Вялікае Княства Літоўскае, яна пазбавілася дзяржаўнай падтрымкі і павінна была позна ці рана знікнуць.

Наша Айчына згубіла каля мільёна людзей, якія ніколі не залічалі сябе ні да палякаў, ні да рускіх, людзей, што думалі па-беларуску і пачуваліся беларусамі...

**ЯКОЕ ПРАВАСЛАЎЕ ЗАПАНАВАЛА НА ЛІТВЕ-БЕЛАРУСІ.** Пасля скасавання уніі Язэп Сямашка становіцца праваслаўным архіепіскапам Літоўскай епархіі (трэцяй па ліку на Літве-Беларусі), пераносіць сваю кафедру з Жыровічаў у Вільню і распачынае барацьбу за ўмацаванне праваслаўнай царквы. Дагэтуль на яе не звярталі асаблівай увагі. І ўрад, і вышэйшае духавенства больш займаліся справамі

103

уніятаў. Што ж сабой уяўляла праваслаўная царква літоўска-беларускіх земляў?

Яна захоўвала старадаўнія праваслаўныя традыцыі нашай зямлі, была пераемніцай даўніяцкага праваслаўя. Уплыў рускай царквы да 30-х гадоў тут быў нязначным, але ў сувязі з барацьбой за далучэнне уніятаў ён узмацняецца. Акт 1839 года ператварае праваслаўе ў пануючую рэлігію на Літве-Беларусі. Але гэта пануючая рэлігійная арганізацыя мела тады паўразбураныя храмы, малаадукаваных і прыдушаных нястачамі папоў. Урад ускладваў на мясцовых паноў абавязак будаваць храмы і дамы для сельскіх святароў, арганізоўваць царкоўныя школы. Але можна сабе ўявіць, наколькі акаталічаныя землеўладальнікі былі зацікаўлены ў падтрымцы праваслаўя. У 1842 годзе царскі ўрад перавёў праваслаўнае духавенства, як і каталіцкае, на дзяржаўнае ўтрыманне, але папярэдне адабраў царкоўныя маёнткі. Гэта мера не ўраўняла папоў з ксяндзамі, таму што адны мелі сялянскую паству, а другія – шляхецкую з яе шчодрай падтрымкай і ахвяраваннямі. Праваслаўе заставалася пераважна народнай рэлігіяй, а каталіцызм -- пераважна арыстакратычнай.

Рускі цар не надта клапаціўся аб матэрыяльным становішчы праваслаўных. Куды важней для яго было ачышчэнне мясцовых прыходаў ад прабеларускай праваслаўнай традыцыі і набліжэнне іх да расійскага ўзору з дапамогай рускіх і зрусіфікаваных папоў. Пра адраджэнне

104

беларускай праваслаўнай царквы, якой яна была да Брэсцкай уніі, не было і гаворкі. Значыць, уніяты не ўз'ядноўваліся з роднай рэлігіяй, з верай сваіх бацькоў, а далучаліся да чужынскай рускай праваслаўнай царквы, якая ператваралася ў зброю русіфікацыі праваслаўных беларусаў. Цікава, ці разумелі гэта тыя высокія духоўныя асобы, што падпісвалі Акт "уз'яднання"? Відаць, не ўсе.

**КАЛІ З НАЦЫЯНАЛЬНАЙ РЭЛІГІЯЙ НЕ ШАНЦУЕ.** Рэлігійнае жыццё беларускага народа ў другой палове XIX стагоддзя ніяк не спрыяла яго нацыянальнаму самавызначэнню. Ні адна з тагачасных рэлігій Літвы-Беларусі не магла стаць нацыянальна-выратавальнай. У адпаведнасці з імперскай свядомасцю, рэлігія стаяла тады на першым месцы і дзяліла людзей на нацыі ў адпаведнасці з іх верай. Беларусы-католікі ў тыя часы лічыліся палякамі, а беларусы-праваслаўныя -- рускімі. Рэлігійны антаганізм раздзіраў народ на дзве палавіны. Ён дагэтуль палохае нас. І мы ўсё яшчэ выбіраем для сябе нацыянальную рэлігію. А ёю зараз можа стаць кожная, якая будзе служыць нашаму адраджэнню. І не адна, а хоць усе разам, што існуюць на гэтым свеце. І вось чаму. У сучасных уяўленнях нацыянальная самасвядомасць стаіць вышэй рэлігійнай. Яна, а не вера, прадвызначае нацыянальную прыналежнасць. Сёння не нацыянальныя ідэі ахвяруюцца рэлігійным, як гэта было даўней, а, наадварот, рэлігійныя ідэі служаць нацыянальным.

## ЦІ ЛЁГКА СЁННЯ НАБЫЦЬ ПАТРЭБНУЮ КНІГУ?

# СТРАШНЕЙ, ЧЫМ ПАСЛЯ ВАЙНЫ

**Ніколі ў нашай краіне нельга было быць упэўненым, што зможаш купіць неабходную кнігу. Кніг заўсёды не хапала. Нават таварыствы кнігалюбаў стараліся, каб неяк перамагчы кніжны дэфіцыт і каб людзі маглі набыць патрэбную літаратуру. Пры гэтым "у нагрузку" пакупнік быў вымушаны набываць кнігі, якія не раскупляліся ў магазінах.**

**Цяпер жа рэзка павялічыўся кошт кніг і звузіўся іх асартымент у магазінах. Парнаграфічную літаратуру, фантастыку і жахі можна купіць лёгка. А вось класічную літаратуру, слоўнікі, энцыклапедыі, кнігі па эканоміцы набыць вельмі цяжка. Іх ці няма наогул ці ёсць у перакупнікоў за вельмі вялікі кошт. Увогуле становішча ў кніжным гандлі мала каго задавальняе. Таму можа быць цікавым погляд на яго знутры. Мы прапануем свайм чытачам інтэрв'ю з віцэ-прэзідэнтам асацыяцыі кнігараспаўсюджвальнікаў краін СНД, дырэктарам дзяржаўнага прадпрыемства Белкніга Аляксандрам ГУРЫНОВІЧАМ.**

-- *Аляксандр Мікалаевіч, як бы вы ахарактарызавалі сітуацыю ў сістэме кніжнага гандлю на Беларусі?*

-- У лепшыя гады для кнігавыдавецтва Беларусі выдавалася каля 2 тысяч назваў кніг. А ў адной толькі Расіі ў той жа час -- 78 тысяч назваў. Відавочная розніца ў колькасці. Увесь патэнцыял навукова-тэхнічнай, класічнай літаратуры на рускай мове, якой мы запаўнялі свой рынак, ішоў на Беларусь у асноўным з Расіі. Цяпер жа разарваны эканамічныя сувязі паміж краінамі. На адносіны з расійскімі прадаўцамі кніг накладваюць свой адбітак розныя валюты ў дзяржавах, эканамічныя цяжкасці.

Функцыя фірмы Белкніга -- забяспечыць літаратурай, акрамя магазінаў, 10 тысяч бібліятэк рэспублікі, бібліятэкі міністэрстваў, ведамстваў, школ. У нашы абавязкі ўваходзіць распаўсюджванне сацыяльна-значнай літаратуры: беларускамоўных кніг прозы, паэзіі, дзіцячых кніг, вучэбных дапаможнікаў. Зразумела, што ніводная камерцыйная структура не будзе займацца распаўсюджваннем такіх кніг, бо ёй гэта нявыгадна.

Мы, на жаль, не маем ад дзяржавы неабходнай падтрымкі. Наадварот, яна перашкаджае нам працаваць вельмі вялікімі падаткамі. Сёння і паліграфісты, і выдаўцы існуюць у такіх умовах, што ў іх адна мэта -- выжыць. Пра інтарэсы грамадства ніхто не рупіцца. Таму і выдаўцы патрабуюць ад нас, каб мы плацілі ім за кнігі адразу, як атрымліваем іх, а не пасля таго, як прададзім. Ёсць выпадкі, калі выдаюцца цікавыя дзіцячыя кнігі, энцыклапедычная літаратура, якія наогул не трапляюць у дзяржаўны гандаль. Яны ці прадаюцца камерцыйным структурам, якія прапаноўваюць яе айчыннаму пакупніку за вялізны кошт, ці вывозяцца за мяжу, каб атрымаць за гэта паперу, што ідзе на выданне новых кніг, якіх у рэспубліцы ніхто не бачыць. Праўда, калі вывозяцца сапраўды неабходныя нам кнігі, мы вымушаны купляць іх у выглядзе таварнага абмену або за вялікі кошт ужо за мяжой. Канешне, набыванне за мяжой кніг, выдадзеных у Беларусі, -- з'ява ненармальная.

-- *Скажыце, калі ласка, ці не знізіўся ў апошнія гады попыт на кнігі ў Беларусі?*

-- Попыт на кнігі, як мне здаецца, не знізіцца ніколі. Хутчэй знізілася пакупная здольнасць. Не ўсе сёння могуць дазволіць сабе набыць добрую кнігу за той кошт, якога яна вартая. Калі некалькі гадоў таму ў рэспубліцы свабодна прадавалі 100-тысячны тыраж выдадзеней у нас кнігі, то цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што за 2--3 месяцы прадаецца не больш за тысячу экземпляраў. Падзенне пакупной здольнасці прымушае зніжаць тыражы, што прыводзіць да павышэння кошту кніг. Дарэчы, падзенне тыражоў выклікае праблему ў паліграфічным комплексе, абсталяванне якога разлічана на шматтыражныя выданні. А каб друкаваць невялікі тыраж, неабходна матэрыяльна-тэхнічнае пераасначшэнне, што патрабуе зноў жа немалых выдаткаў.

-- *Ці выгадна сёння прадаваць кнігу?*

-- Многія кніжныя прадаўцы церпяць страты. За першы квартал бягучага года толькі ў Мінску 15 магазінаў з 46 сталі стратнымі. Кніжныя магазіны нават не ў стане закончыць афармленне інтэр'ера і рэкламы на беларускай мове, гэта значыць выканаць закон аб мове, бо не хапае сродкаў.

І калі магазіны звяртаюцца да мясцовых улад, каб ім знізілі арэндную плату за памяшканне, як гэта ўжо зроблена для прадуктовых магазінаў, месцаў грамадскага харчавання, ім не ідуць насустрач.

На прац[illegible] ацяпляльнага сезону не [illegible] ніводнага магазіна, які [illegible] працаваў без страт: кошт ацяплення быў у 3--4 разы вышэйшым, чым зарплата прадаўцам. Было выгадней закрыць магазін.

-- *Не так даўно вы былі на кніжным кірмашы ў Варшаве. Што-неб[illegible] удалося прадаць?*

-- З ко[illegible]м годам больш відавочна, што падае прадстаўніцтва кірмашу, цікавасць да яго з боку гандлёвых фірм. Усе хочуць нешта прадаць, як і мы, каб такім чынам зарабіць грошы на закупку літаратуры. Да мяне звярнуўся дырэктар нацыянальнай бібліятэкі Літвы з просьбай падараваць кнігі па гісторыі Беларусі, каб у беларусаў у Літве была магчымасць звярнуцца да іх у бібліятэкі. Мы падаравалі.

Наогул, у замежжы нам удаецца працаваць пакуль толькі з бібліятэкамі, якія робяць заказы на паасобныя экземпляры. Што тычыцца магазінаў, то, напрыклад, у Літве дзейнічае так званы чамаданны метад гандлю. Камерсанты прыязджаюць туды з чамаданам кніг, разлічваючы наяўныя грашыма, што дае магчымасць пазбегнуць мытні, падаткаў. Калі мы прапаноўваем адкрыць аддзелы беларускай літаратуры ў кніжных магазінах Літвы, а літоўскай -- у магазінах Беларусі, то ў Літве нам пакуль адмаўляюць. Прыватнаму прадаўцу кніг (а ў Літве амаль не засталося дзяржаўнага гандлю) нявыгадна трымаць такі аддзел, бо ён не прынясе хуткага прыбытку. Такое становішча не толькі ў Літве.

-- *Ці шмат кніжных магазінаў закрылася на Беларусі?*

-- Па Беларусі з 157 кніжных магазінаў закрыліся 20 працэнтаў. Бывае, што магазіны прыватызуюцца і змяняюць свой від дзейнасці. У Магілёўскай вобласці былі выпадкі, калі зачыняліся кніжныя магазіны, а ў іх памяшканне ўсяляліся камерцыйныя структуры. Мы судзіліся з імі і выйгралі некалькі спраў, бо ў цэлым уся сетка кніжнага гандлю з'яўляецца дзяржаўнай маёмасцю. Я лічу, што кніжны магазін можа прыватызавацца толькі без права змянення свайго профілю. Інакш будзе вельмі цяжка хаця б захаваць кніжны гандаль, калі ўжо пра яго развіццё казаць цяжка. Мы павінны зразумець, што кніжны гандаль -- не звычайны гандаль, інакш -- наступіць дэградацыя грамадства.

-- *Аляксандр Мікалаевіч, як ідуць справы з распаўсюджваннем беларускамоўнай літаратуры, што атрымлівае датацыю з дзяржаўнага бюджэту?*

-- Дзіцячая, мастацкая беларускамоўная літаратура сапраўды атрымлівае датацыю на 70 працэнтаў, аднак выдаўцам гэтага не хапае. Што ж да кніжнага гандлю, ніхто не памятае пра існаванне гэтага апошняга звяна і ягоныя страты.

На кнізе вялікага прыбытку наогул не атрымаеш. Калі ж мы займаемся кнігамі, якія атрымліваюць датацыю дзяржавы, праца па распаўсюджванню кладзецца на плечы кніжнага гандлю, які вымушаны браць вялізныя крэдыты ў банку. Запазычанасць фірмы Белкніга банку -- болей за 1,5 мільярда рублёў. Каля 3 мільярдаў рублёў вінны нам за рэалізаваную літаратуру. Столькі ж мы вінны сваім выдаўцам, у якіх набываем кнігі.

-- *У навучальных установах Беларусі па-ранейшаму карыстаюцца расійскімі падручнікамі...*

-- Так. У сувязі з гэтым шмат праблем і ў Міністэрства адукацыі, якое разлічваецца за кнігі, і ў фірмы Белкніга, якая займаецца дастаўкай кніг.

Расійскія падручнікі складаюць значную частку вучэбнай літаратуры. Летась мы купілі ў Расіі падручнікі на 50 мільёнаў расійскіх рублёў за кошт свайго прыбытку. Цяпер мы сабе такога дазволіць не можам. Сёння кошт падручнікаў рэзка павялічыўся. Трэба дзесяткі мільярдаў рублёў. Калі ўрад выдзеліць патрэбныя грошы, мы набудзем кнігі. Без папярэдняй аплаты ў Расіі ніхто з намі не будзе мець справу. Заказы ад Міністэрства адукацыі ўжо ў Маскве. Праблема -- грошы.

-- *Вы дапускаеце, што да верасня грошы могуць не пералічыць і дзеці застануцца без падручнікаў?*

-- Па-мойму, сёння ўсё можа здарыцца. Даўно ўжо час зразумець, што трэба пераходзіць на свае вучэбныя дапаможнікі. Аднак напісаць іх -- вялікая справа. І няхутка, і нялёгкая.

-- *Але ж Беларусь лічыцца самастойнай дзяржавай не адзін і не два гады. За такі тэрмін можна было, здаецца, нешта зрабіць...*

-- Аднак сваіх падручнікаў няма. Ішла гаворка, каб зрабіць падручнікі платнымі. У такім выпадку школьнікі будуць набываць адну кнігу на пад'езд і карыстацца ўсе разам, бо не кожная сям'я зможа купіць дарагі падручнік.

-- *Як пасля вайны...*

-- Гэта будзе страшней, чым пасля вайны, бо цяпер іншы час, і ў людзей іншыя патрабаванні да жыцця, а ў яго -- да іх.

**Алена СПАСЮК.**




# ЗНОЎ У МАГІЛЁВЕ "МАГУТНЫ БОЖА"

**Адгучалі апошнія акорды II Міжнароднага і, хочацца спадзявацца, цяпер ужо традыцыйнага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа". Цэнтрам яго правядзення стаў Магілёў. На час фестывалю горад ператварыўся ў адкрытую пляцоўку: усюды праходзілі конкурсныя канцэрты, выступленні.**

**Адбыліся яны і ў ліцэі музыкі і харэаграфіі, выставачнай зале Магілёўскага аддзялення Саюза мастакоў Беларусі, дзе размяшчалася ў гэтыя дні экспазіцыя работ мясцовых жывапісцаў, прысвечаная святу рэлігійнай музыкі.**

**А гасцей на сёлетнім фестывалі было роўна ўдвая больш у параўнанні з мінулагоднім. Толькі ўдзельнікаў зарэгістравалася каля тысячы чалавек. Прыбылі яны з Польшчы, Галандыі, Германіі, Канады, з Украіны і Расіі.**

**За час фестывалю жыхары і госці Магілёва пачулі побач з маладымі пачынаючымі калектывамі і выканаўцамі царкоўнай музыкі і лаўрэатаў хрысціянскіх міжнародных конкурсаў духоўнай музыкі, такіх, як "Дойлідства", "Унія" і іншых.**

**НА ЗДЫМКАХ: цэнтрам правядзення фестывалю і галоўнай канцэртнай пляцоўкай стаў касцёл св. Станіслава; дзіцячая капэла адной з агульнаадукацыйных школ Польшчы таксама ўдзельнічала ў фестывалі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**





# ВІЦЕБСК, ЛЕТА 1994-га,

## або СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ МЕСЦІЧА З НАГОДЫ ПЕРШАГА МІЖНАРОДНАГА ШАГАЛАЎСКАГА ПЛЕНЭРУ

Чацвёртае лета запар Віцебск адзначаў дзень нараджэння свайго славутага сына -- вялікага яўрэйскага мастака Марка Шагала. Прабіўшыся праз палітычныя забабоны таталітарнага грамадства, свята, нягледзячы на свой дзіцячы ўзрост, ужо здолела набыць якасці натуральнай патрэбы культурнага жыцця места. На гэты раз горад Шагала вітаў мастакоў. Чатыры дзесяткі ўдзельнікаў Першага міжнароднага Шагалаўскага пленэру 23 дні (з 14 чэрвеня па 6 ліпеня) правялі ў Віцебску, ужо самім сваім з'яўленнем упісаўшы ў гісторыю культурнага жыцця горада адметную шматфарбную старонку.

"Людзей! Мастакоў! Сталічных у правінцыю! Да нас! Якімі калачамі вас завабіць?" -- такімі словамі заканчваўся "Ліст з Віцебска" ўпаўнаважанага па справах мастацтва Віцебскай губерні Марка Шагала, напісаны ў 1918 годзе. Бадай што, з тых самых часоў для мастакоў свету Віцебск перастаў быць нязнанай правінцыяй, а галоўным "калачом", які і сёння прываблівае ў горад сусветную мастацкую эліту, стаў сам Шагал.

Дзівоснае свята, чыннікамі якога сёлета сталіся мастакі з 10 краін свету, час ад часу міжволі выклікала рэмінісцэнцыі з падзеямі віцебскай гісторыі 70-гадовай даўнасці. Менавіта ў кругабег 1918--1921 гадоў у горад прыехалі вядомыя мастакі, філосафы і літаратуразнаўцы, тут былі створаны кансерваторыя, 5 музычных школ, сімфанічны аркестр, дзяржаўны хор, тэатральная студыя, адчыніўся універсітэт. "Віцебскі рэнесанс" -- такое акрэсленне атрымала гэтая з'ява ў больш позні час, калі зрабілася аб'ектам вывучэння мастацтвазнаўцаў і гісторыкаў. Ставіць у адзін рад з ёю нейкую падзею культурнага жыцця горада за наступныя сем дзесяцігоддзяў папросту не выпадала. І вось -- Першы Шагалаўскі пленэр. Натуральна, што эпохі не паўтараюцца, і шукаць паміж імі люстраное падабенства -- справа няўдзячная. Аднак спроба вылучыць пэўныя рысы агульнасці або рознасці паміж з'явамі, якія захопліваюць сваёй змястоўнасцю і глыбіннасцю, спакушае разгледзець іх хоць бы ў першым набліжэнні. Такім чынам, што ж адбывалася ў Віцебску летам 1994 года?



### НА МОВЕ МАСТАЦТВА

У 1919 годзе на зварот М.Шагала да сталічных мастакоў у толькі што створаную Віцебскую мастацкую вучэльню прыехалі прадстаўнікі самых розных накірункаў мастацтва. Адначасна тут працавалі "рэалісты" Ю.Пэн і М.Дабужынскі, "Экспрэсіяніст" М.Шагал, "футурыст" В.Ермалаева, "супрэматыст" К.Малевіч, "сезаніст" Р.Фальк, "канструктывісты" І.Пуні і Л.Лісіцкі, "кубіст" Д.Якерсон і іншыя. Час звёў іх усіх пад адным дахам, што, аднак, не замінала актыўнаму пошуку новых форм і мастацкіх выяўленчых сродкаў, выпрацоўцы самых смелых і наватарскіх ідэй.

Такую ж разнастайнасць творчых падыходаў, індывідуальных манер, пазіцый і тэхнік выявілі і мастакі, што прыехалі на Першы Шагалаўскі пленэр. Кожны з іх прывёз у Віцебск уласную тэму, уласны стыль -- адлюстраванне і пэўны вынік развіцця сваёй творчай асобы. "Шагал для мяне -- вялікі аўтарытэт, аднак у Віцебску я буду рабіць тое, што раблю, не звязваючы гэта тэматычна ні з Шагалам, ні з Віцебскам", -- так сказала на прэс--канферэнцыі ў дзень адкрыцця пленэру мастачка Зоя Літвінава. І гэтая пазіцыя была характэрнай для большасці мастакоў. Аднак менавіта дзякуючы ёй напрыканцы пленэру Віцебск атрымаў унікальную мажлівасць на ўласныя вочы пабачыць добрую выставу сучаснага мастацтва -- нястрыманы феерверк фантазіі, натхнення і разняволенага таленту.

18 дзён пленэру мастакам былі адведзены для творчай [illegible]ацы ў Віцебску і яго ва[illegible]ліцах. Іх часовыя майстэрні размяшчаліся ў класах дзіцячай мастацкай школы N 1 г.Віцебска. Высокі мастацкі ўзровень прац выхаванцаў школы -- гэта першае, што асабліва ўразіла ў горадзе ўдзельнікаў [illegible]енэру. "Артыстычная [illegible]ніяльнасць дзяцей адчуваецца ў многіх працах", -- ужо на першай прэс-канферэнцыі адзначыў мастак са Злучаных Штатаў Уільям Святчарнік. "У Віцебску я знайшла шмат вачэй, падрыхтаваных да ўспрымання мастацтва, -- заўважыла мастачка з Масквы Люба Жухавічар. -- Тут цікава было б зрабіць выставу". Пагадзіцеся, што такое прызнанне робіць гонар любому гораду.

"Віцебск мае нейкую надзвычайную ауру", -- неаднойчы даводзілася чуць ад гасцей пленэру. І чуйныя душы мастакоў жыва адгукаліся на рытм горада, ягоны сэнс і сутнасць. "Тут мяне кранулася кры[illegible] пралятаючая птушка", [illegible]сказаў Фелікс Бух з Масквы, на палотны якога раптам замест самотных цёмных сталі класціся празрыстыя светлыя фарбы, і нечакана для аўтара змянілася нават тэматыка прац. Мастакі з задавальненнем г[illegible]ялі па Віцебску, і іхнія мал[illegible]ыя постаці пасавалі старым мураванкам і вузкім вуліцам. Джанет Кіпка з Берліна, самапасам вандруючы па горадзе і не ведаючы па-расійску, у батанічным садзе знайшла перабудаваную капліцку сярэдзіны XIX стагоддзя, аб існаванні якой сёння ведае далёка не кожны віцебскі месціч. Яшчэ адна мастачка з Германіі Карла Восніца за час пленэру намалявала сваім сябрам ва ўсім свеце 15 "Лістоў з Віцебска" і дадала да іх тэкставыя каментары -- сур'ёзны філасофскі роздум пра жыццё, мастацтва, чалавечыя ўзаемаадносіны.

Горад, несумненна, узрушыў сэрцы мастакоў, аднак прыхільнасць, думаецца, была ўзаемнай. Падчас Шагалаўскага пленэру Віцебск расквітнеў шматлікімі выставамі. У адным толькі мастацкім музеі было разгорнута адразу 6 экспазіцый: вялікая рэтраспектыўная выстава да 75-годдзя Віцебскай мастацкай школы, якую заснаваў у 1918 годзе М.Шагал; выстава, прысвечаная 140-годдзю з дня нараджэння Юдаля Пэна, першага настаўніка Шагала; выстава супрэматычнага плаката, кніжнай графікі і дызайна Алены Кітаевай; выстава скульптуры Уладзіміра Слабодчыкава; выстава абразоў Анатоля Крыкунова і фотавыстава Розы Бен-Цві Літаі "Ізраіль -- мой дом". Віцебскі цэнтр народнай творчасці знаёміў гасцей і ўдзельнікаў свята з прасякнутымі шчырым пачуццём скульптурнымі і жывапіснымі працамі Фёдара Максімава -- яскравага прадстаўніка мастацтва наіву. Беларускі авангард прэзентавала выстава дзейснай творчасці "In-formation-94", на якой выстаўляліся працы віцяблян Андрэя Вярэніча, Васіля і Галіны Васільевых, Міколы Прусакова, мінчукоў Ігара Кашкурэвіча і Людмілы Русавай.

Удзельнікі пленэру з вялікім зацікаўленнем знаёміліся з мастацкім жыццём горада, мясцовымі мастакамі. Нязмушаныя чалавечыя кантакты паміж імі ўсталёўваліся вельмі хутка, іншым разам нават насуперак не зусім зразумелым памкненням арганізатараў пленэру адсунуць "тутэйшых" творцаў некуды ўбок, на другі план. Так, удзельнікам пленэру нават і дзесяці хвілін не далі правесці разам з полацкімі мастакамі, госці літаральна заскочылі ў знакамітую галерэю "Рыса" і толькі зазірнулі ў дзіцячую мастацкую школу. Наведванне прыватнай галерэі Алеся Пушкіна ў Віцебску з выставай "Барока на Беларусі" (на ёй былі прадстаўлены копіі фрэскавых роспісаў з касцёла св. Станіслава ў Магілёве) таксама чамусьці аказалася па-за праграмай пленэру. Не імкнучыся адшукаць ва ўсіх гэтых акалічнасцях злога намеру, адношу іх толькі на рахунак пэўнай недасведчанасці арганізатараў пленэру ў сучасным стане мастацкага жыцця Беларусі. Сумна, што яны яшчэ да гэтага часу сумняваюцца ў тым, што ў рэгіянальных цэнтрах рэспублікі ўжо даўно існуюць з'явы, якія не сорамна паказваць нават іншаземцам. А галерэю Пушкіна ўдзельнікі пленэру ўсё-такі наведалі. Праўда, не заспелі там самога гаспадара, які яшчэ на пачатку лета з'ехаў на рэстаўрацыйныя працы ў Магілёў, аднак былі вельмі задаволены. Калі стракатаю купкаю мастакі пакінулі залу галерэі, на адной з палічак засталася ляжаць каляровая паштоўка з выяваю адной з прац Жульет Фарну -- прывітальны ліст мастачкі з Францыі мастаку з Віцебска, напісаны на самай зразумелай мове, мове мастацтва.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**









**НА ЗДЫМКАХ: урачыстае адкрыццё Шагалаўскага пленэру на сцэне драмтэатра імя Якуба Коласа; удзельнікі пленэру ў Віцебску: Францішак МАСЛЮШЧАК (Польшча), Одры ЛІ ФОЛК і Рычард ФОЛК (ЗША), Аляксандр ЛАЗАРЭВІЧ (Расія), Май ДАНЦЫГ (Беларусь).**

**Фота Уладзіміра БАЗАНА і Людмілы ЛЯШЧОВАЙ.**

**(Працяг будзе).**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





У Мінскім палацы мастацтва працуе выстава "Жыве Беларусь!", прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На выставе ёсць розныя карціны. Сярод іх -- парадныя, урачыстыя з гушканнем ветэранаў і з бесклапотнымі ўсмешкамі пераможцаў. А ёсць творы, у якіх мастак паглыбляецца ў з'яву вайны, асэнсоўвае яе. Сёння неяк няёмка глядзець на святочныя карціны, дзе шмат кветак і ўсмешак, бо яны — імгненне пасля той страшнай бойкі.

Тая вайна з'явілася сусветнай катастрофай і жудаснай сканцэнтраванай людской пакутай. Аднак яна не стала катарсісам, ачышчэннем праз пакуты. Яна прынесла столькі болю, што да дня сённяшняга не дае людзям спакойна спаць. У вёсцы маёй бабулі жыве чалавек, якога людзі, што нарадзіліся пасля вайны, ніколі не бачылі. ён амаль не выходзіць са сваёй хаты, бо да сённяшняга дня хаваецца ад немцаў і з вялікім страхам дазваляе жонцы пайсці ў магазін па хлеб. Ён жыве яшчэ ў вайне.

Людскі боль -- на лепшых карцінах, што прадстаўлены на выставе. На карціне А.Замай "Звон святыні" -- Хатынь і жанчына са свечкай у руках. Свечка гэтая не толькі ў памяць загінуўшых у спаленай вёсцы, але і ўсіх ахвяр той страшнай вайны, усіх ахвяр пасля яе. Пра апошнія мы яшчэ не ведаем дакладна, бо вынікі рэпрэсій камуністаў, трагедыі Чарнобыля будуць нагадваць пра сябе наступным пакаленням беларусаў. А пакуль В.Шматаў піша серыю карцін "Чарнобыльская трагедыя", якія ўражваюць шчырасцю і любоўю да пакінутых вёсак, да скалечаных лёсам людзей, вымушаных, як бабулька на карціне "Развітанне", кідаць сваю хату з забітымі вокнамі і ісці ў іншыя мясціны з абразом, кошкай і клункам.

Калі глядзіш на пейзажы мастака У.Ткачэнкі, здзіўляешся іх натуральнасці і жывасці. Яшчэ раз захапляешся прыгажосцю сваёй зямлі, і з'яўляецца ўпартая думка: гэтая зямля і людзі не заслугоўвалі такога сумнага лёсу ні тады, ні цяпер.

Пра тую вайну трэба памятаць, каб не знікла нянавісць да насілля. А нам такое, здаецца, пагражае. У нас няма любові да свабоды і веры ў свае сілы. Але ж чужых не пазычыш. Тая вайна павінна была б нас нечаму навучыць.

**Алена СПАСЮК.**

НА ЗДЫМКАХ: карціны А. ЗАМАЙ "Звон святыні' і М. КАРПУКА "Назаўсёды".

### ТАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

# ДЗЕ КАРАНІ НАЗВЫ ТВАЙГО НАСЕЛІШЧА?

## РЭЧЫЦА

Рэчыца (у мясцовым вымаўленні Рачыца), што ў Гомельскай вобласці, належыць да групы назваў на -іца. У сваёй большасці гэта вельмі старажытныя, пераважна рачныя назвы, тыповыя для тэрыторыі ранняга славянскага засялення.

Гомельская Рэчыца ці Рачыца (нацiск устанавіць немагчыма) упершыню ўпамінаецца пад 1214 годам. Думаецца, што ў сваім першапачатковым варыянце мела форму Рачыца, якой яе захавала народная памяць. Тым больш, што на тэрыторыі Беларусі яна не адзінкавая. Пад назвай Рачыца вядомы палі, сенажаці, лясныя ўрочышчы, якія прымыкаюць да малых рэчак у розных раёнах Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцей.

Назва Рачыца паходзіць ад старажытнага слова рачица (памяншальная форма ад рака), якое абазначала паняцце -- невялікая рэчка, рачулка. У старажытнасці было шмат памяншальных слоў, утвораных пры дапамозе суфікса -іц(а) (десница -- ад десна, ручица -- ад рука, вежица -- ад вежа і інш.). Памяншальнае значэнне ўжо даўно перадаецца ў беларускай мове з дапамогай іншых сродкаў (часцей за ўсё групай суфіксаў з элементам -к-: рэчачка, ручка, вежка). Дэмінутыў -іц(а) зараз толькі зрэдку адзначаецца ў літаратурнай мове і мясцовых дыялектах (вадзіца, сястрыца, расіца, травіца) і ў складзе асобных уласных геаграфічных назваў. На тэрыторыі Беларусі назвы рэк Рэчыца (Рачыца) часта сустракаюцца ў басейне Дняпра, што сведчыць пра даўняе засяленне славянамі беларускіх зямель па Дняпры і яго прытоках.

## ПРУЖАНЫ

Пра паходжанне назвы Пружаны створаны тры легенды. Паводле адной з іх, імя населенаму пункту дадзена ў гонар княжацкай дачкі Пружаны. Паводле другой, назва мела форму Прасяна, бо некалі тут нібыта добра радзіла проса. Згодна з трэцяй легендай, паселішча першапачаткова называлася Прусаны, або Прусяны, а заснавалі яго прусакі, якія, уцякаючы ад крыжаносцаў, аселі ў лясістых аколіцах вёскі Дабучына.

Але малаверагодна, што існавала жаночае імя Пружана, бо ні ў старабеларускай, ні ў сучаснай іменаслоўнай практыцы яно не сустракаецца. Старабеларускія пісьмовыя крыніцы не засведчылі і формы Прусаны, Прусяны, Прасяна. Але ёсць звесткі, што ў XIII стагоддзі назва мела форму сцягненага прыметніка -- Пружана. Значыць, можна меркаваць, што ў аснове назвы ляжыць нейкая прыкмета. Ні ў старабеларускай, ні ў старарускай мовах прыметнік пружаный не засведчаны. Але ў асобных слоўніках адзначаюцца аднакарэнныя словы: пружь -- "баразна для вады" (І.І. Сразнеўскі), пруженье -- "пруд, запруда, гаць, грэбля, штучнае возера, яма з напушчанай вадой" (У. Даль). Пружанай магла называцца рака, на якой зрабілі запруду, гаць, або грэблю. Такую версію ў пэўнай ступені падтрымлівае наяўнасць на тэрыторыі Беларусі рачной назвы Пружаніца (басейн Нёмана), у якой празрыста выступае прыметнікавая аснова (параўн.: Прудная, Прудніца ў басейнах Нёмана, Дняпра, Бярэзіны).

Уяўляецца, што назва Пружана першапачаткова ўзнікла як назва ракі, а затым была перанесена на паселішча і падпала пад уздзеянне множналікавых айконімаў.

Зараз рака Пружана не існуе, яна магла знікнуць або змяніць назву. Несумненна адно, што ў канцы XIX стагоддзя рака існавала, бо, паводле афіцыйных даных, у Пружанах у 1890 годзе быў пабудаваны паравы млын.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА.**

(Заканчэнне будзе).



**Комплекс будынкаў "Пад ліпамі" з'явіўся нядаўна на трасе Кобрын--Гомель у раёне Іванава. Ён прызначаны для падарожнікаў і аўтатурыстаў. Тут ёсць гасцініца на 42 месцы, цудоўны рэстаран-кафэ, стаянка для транспарту.**

**Размясціўся комплекс у ліпавым гаі. І так добра, што мясцовы райспажыўсаюз паклапаціўся аб тым, хто праязджае па трасе. Бо ў старыя часы стомленых падарожнікаў усюды чакалі прыдарожныя тракціры, гасцінныя дамы.**

**Дык, можа, варта аднавіць яшчэ адну добрую традыцыю!**

**НА ЗДЫМКУ: комплекс "Пад ліпамі".**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

**Управа Беларускае Хрысьціянска-Дэмакратычнае Злучнасьці выказвае шчырыя спачуваньні сябру Управы, намесьніку старшыні БХДЗ спадару Алесю БЯЛЯЦКАМУ ў ягоным горы -- сьмерці МАЦІ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1082. Падпісана да друку 25. 7.1994 г.